# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 6 (1198) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 11 ЛЮТАГА 1979 г. ЦАНА 60 гр.


ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

12 студзеня бягучага года ў беластоцкай „Ратундзе“ адбылася вельмі прыемная ўрачыстасць: адзначэнне 25-годдзя дзейнасці Беластоцкага тэатра лялек. Былі зачытаны віншаванні, былі ўзнагароды. Быў юбілейны спектакль. Нядаўна ў калектыў тэатра прыйшла значная група моладзі — першых выпускнікоў лялечнага факультэта беластоцкага філіяла Варшаўскай вышэйшай тэатральнай школы. І гэтая амбітная група не прымусіла гледачоў доўга чакаць на свае творчыя здзяйсненні. Якраз пастаноўкай „Пастаралак“ („Калядак“) польскага драматурга Ляона Шылера прыдала бляску ўрачыстасці 12 студзеня г.г.

У біткам набітай зале „Ратунды“ — людзі стаялі пад сценамі, сядзелі нават на падлозе — было многа такіх асоб з інеем сівізны на віс-



Бранск зімою (да фотарэпартажа на стар. 3).

## Падвойны юбілей

ках, што не толькі добра памятаюць першыя крокі гэтага тэатра, але якім якраз ён і адкрыў чароўны свет лялек і захапіў імі.

Відаць, у Беластоку такая ўжо глеба, вельмі спрыяльная для „лялечнікаў“. І тут неабходна прыгадаць таго, хто на беластоцкім палетку пракладваў першыя скібы. Гэты гонар належыць Пятру Савіцкаму — цудоўнаму чалавеку, самароднаму таленту, які паходзіць, дарэчы, з таго самага роду **Савіцкіх,** што і вядомая наша дзяячка **Ніна Мушынская.** Гэты ўсебакова адароны сын былога будаўніка Белавежскага палаца, бадай, увасабляе сабой адаронасць тутэйшых людзей, дасканала валодаючы мноствам уменняў: дойлідствам, разьбой, жывапісам, фатаграфіяй, мастацкім словам і чым толькі яшчэ, але перш за ўсё — акторствам „лялечніка“. Яго вельмі ўдалыя аматарскія пастаноўкі і настойлівае гуртаванне вакол сябе такіх жа заўзятых любіцеляў гэтага роду мастацтва давялі ўрэшце да стварэння ў Беластоку сталага дзяржаўнага лялечнага тэатра „Свярчок“. Цікава, што адной з першых пастановак якраз у сезоне 1953/54 была заснаваная па матывах баек вядомага рускага байкапісца І. Крылова інсцэніроўка „Пра тое, як звяры канцэрт наладзілі“. І так з лёгкай рукі П. Савіцкага ды з крылоўскім жыццёвым аптымізмам пайшлі



*Марыя і Іосіф — праўдзівыя фальклорныя постаці, маскі з лазы вычаравалі працаўнікі тэатральнай майстэрні пад кірункам І. Ярлецкай і З. Жданца.*

беластоцкія „лялечнікі“ ў свой творчы шлях. Напэўна здаралася на ім не мала ўзлётаў і падзенняў, але ўсё ж значыўся ён штораз больш плённымі здзяйсненнямі, доказам чаго можа быць хоць бы такая жменька лікаў: 3—5 прэм'ераў і звыш 400 спектакляў для 80 тысяч гледачоў у сярэднім у год. Прытым палавіна ўсяго — гэта выязныя пастаноўкі не толькі ў мястэчках, але нават самых глухіх вёсачках Беласточчыны! І так „Свярчок“ паступова, але, няўхільна здабываў усё большую папулярнасць і ў сваім рэгіёне і па ўсёй Польшчы, а таксама па-за яе межамі. Ён усё часцей і часцей пачаў прывозіць з розных агульнапольскіх і міжнародных конкурсаў высокія ўзнагароды, а ўжо некалькі год праводзіць у сябе, у Беластоку, Міжнародны фестываль лялечнікаў. І гэты багаж, а дакладней — гэтая цяжка выпрацаваная на працягу чвэрці стагоддзя творчая спадчына — павінна была выявіць сябе на юбілейным спектаклі „Калядак“. І выявілася.

„Калядкі“ адрасуюцца даросламу гледачу. У аснове п'есы пакладзена аповесць аб нараджэнні Ісуса Хрыста ў такім тлумачэнні, якое даў ёй польскі люд у сваім фальклоры (песнях, легендах, сцэнах у шопках-батлейках, анекдотах, жартах і г.д.). Так як у заходнееўрапейскай сярэднявечнай містэрыі, у „Калядках“ сутыкнуліся рэлігійныя вераванні са звычайнай штодзённасцю, і на гэтым каларытным фоне аўтар пабудаваў вельмі далікатную карунку псіхалагічнай драмы. Каб дабыцьі перадаць гледачам глыбокі ідэйны змест п'есы ад усяго калектыву выканаўцаў патрабуецца прафесіянальнае майстэрства і асаблівае ўнутранае заанга-

(Працяг на стар. 2)




## СКАРБ

*Былое варушы*
*Спаважліва, памалу.*
*Ёсць стомленасць душы*
*І стомленасць металу.*

*Метал — на пераплаў,*
*Душу — не пераплавіць.*
*З забытых пераправ*
*Сябе не пераправіць.*

*Ані дагнаць сцяжын,*
*Што зніклі ў даўнім ранні.*
*Вярнуць сябе з чужын —*
*Дарэмнае стараннe.*

*Адмоўся ад імшы —*
*Пакінь яе металу.*
*Аддзяч спаўна душы*
*За неадумнасць палу.*

*Метал зямной глушы —*
*У грукаце турбіны.*

*Ёсць стомленасць душы —*
*Твой светлы скарб адзіны.*

**Рыгор Барадулін**

З РЭПАРЦЁРСКІХ ЗАПІСАК

## ПАД ЗАЛАТОЙ ВЕХАЙ

Аўтобус паварочвае з шашы на вузкую палявую дарогу, з якой ужо здалёк відаць пад лесам аграмадны гаспадарчы будынак, а каля яго прыгожы двухпавярховы жылы асабняк. Гэта хутар Кулешы, у гміне Крыпна, дзе жыве і гаспадарыць толькі з жонкай Яўгеній Быстроўскі. Ён таксама спецыялізуецца ў гадоўлі авечак. Мае ўжо 200 штук матак і ягнят. Аўчарню, за якую далі яму аж 6000 злотых узнагароды, пабудаваў у мінулым годзе. Будынак прасторны, амаль 40 x 20 м, не лічачы выбегаў з абодвух бакоў.

Тут сапраўды ёсць на што паўзірацца. Дык абступілі гаспадара сяляне і проста закідалі яго пытаннямі: хто яму будаваў гэтую аўчарню, колькі яна каштавала, на працягу якога часу вернуцца яго капіталаўкладанні, ці не замерзнуць тут ягняты, як развозіць корм, як чысціць ад гною, колькі мае зямлі, адкуль бярэ корм?

Яўгеній Быстроўскі адказвае цярпліва і, здаецца, зусім шчыра:

— Будаваў я гэтую аўчарню сам, бо яе канструкцыя зусім простая. Спецыяльныя бетонныя панелі (пліты) купіў на Раённым прадпрыемстве вясковага будаўніцтва ў Тшцяным, сам іх паскручваў шрубамі, у сярэдзіну між гэтымі плітамі дзеля тэрмічнай ізаляцыі паклаў драўляныя апілкі, змешаныя з вапнай, і толькі сталярку дапамог мне абсталяваць майстар. Усё разам каштавала мне **1 мільён 400 тысяч злотых.** Адкуль я ўзяў столькі грошай? Вядома, з банку, у растэрміноўку на 30 гадоў, але мяркую, што найдалей праз тры гады вярну я свае кошты. Корм маю свой, бо ў мяне 25 га зямельных угоддзяў, а ў тым ліку аж 20 га сенажацяў. Цэлае лета авечкі пасуцца на траве за электрычным пастухом. Зімой, апрача іншых кармоў, кідаю ім сена і цэлыя снапы немалочанага аўса. Што не змогуць з'есці, астаецца на падсціл. Гной выбіраю трактарным грузчыкам „Тур“ і вывожу або на поле, або складаю на прызбы. Стрыжу авечак сам электрычнымі ножніцамі. Ваду мае авечкі п'юць з аўтаматычных паілак...

✲

Ян Бароўскі, Сцяпан Бароўскі, Міхаіл Зімнох і Лешак Зімнох заснавалі сельскагаспадарчую суполку. Разам маюць 74 гектары зямлі. Жывуць яны ў вёсцы Бароўскае Гзікі, у гміне Турасць Касцельная, дзе абсталявалі сапраўдны свінагадоўчы камбінат, які складаецца з дзвюх, спалучаных разам хлеўняў,

Працяг на стар. 4

(Працяг са стар. 1)

# Падвойны юбілей

жаванне. На пастаноўку такой п'есы трэба вельмі адважных. І хіба ж бязмежна паверыў дэкан беластоцкага лялечнага факультэта ВТШ **Ян Вількоўскі** ў творчыя здольнасці і высокія вартасці акторскага рамяства сваіх нядаўніх выхаванкаў, калі падняўся інсцэніраваць і рэжысіраваць п'есу, а **Адам Кільян** — падрыхтоўваючы сцэнаграфію, ды **Ян Бондар** — даючы музычнае афармленне. Прайшоўшая з поспехам прэм'ера „Калядак" даказвае, што гэтыя вопытныя майстры сцэны не памыліліся ў магчымасцях беластоцкай акторскай моладзі.

Свежа, старанна і ўдала былі сыграны ўсе ролі ў п'есе. Найбольш астаюцца ў памяці гледачоў вядучыя постаці Марыі (акторка Е. Поляк-Валесяк), Іосіфа (Я. Сламінскі), архангела Гаўрыіла (Я. Валесяк), д'ябла (Я. Гжэсяк), а таксама эпізадычныя ролі, як, напрыклад, ангелаў (Б. Дамулевіч, В. Мушынская-Здрадоўская, Д. Аклота, А. Скобей, А. Скепка, М. Сасноўская, Д. Вішаватая) ці дасканала прадстаўленая постаць рабіна (Я. Валесяк). Асаблівая з'ява ў гэтым калектыве ёсць майстэрства ігры і асабістае заангажаванне П. Дамулевіча, які выконваў вельмі складаныя ролі Пралога і Ірада. Так, вельмі даравітая і працавітая моладзь папоўніла калектыў беластоцкіх лялечнікаў.

І ўсё гэта дае падставу сцвердзіць, што Беластоцкі тэатр лялек 12 студзеня бягучага года святкаваў свой сапраўды падвойны юбілей.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

*У ГЭТЫМ ТЫДНІ*

**765 гадоў назад**
13.2.1214 — першае ўпамінанне ў летапісе беларускага горада Рэчыцы.
**415 гадоў назад.**
15.2.1564 нар. Г. Галілей, італьянскі фізік, механік і астраном, адзін з заснавальнікаў дакладнага прыродазнаўства. Першы выказаў ідэю пра адноснасць руху. Пам. 8.I.1642.
**210 гадоў назад**
13.2.1769 нар. І. Крылоў, рускі пісьменнік, журналіст, байкапісец. Яго байкі ўвабралі ў сябе мудрасць і гумар народа. Пам. 21.II.1844.
**175 гадоў назад**
12.2.1804 пам. І. Кант (нар. 22.4.1724), нямецкі філасаф, роданачальнік нямецкага класічнага ідэалізму.
**170 гадоў назад**
12.2.1809 нар. Ч. Дарвін, англійскі натураліст, заснавальнік эвалюцыйнага вучэння пра паходжанне відаў праз натуральны адбор. Пам. 19.4.1882.
**150 гадоў назад**
11.2.1829 загінуў А. Грыбаедаў, рускі пісьменнік і дыпламат, аўтар „Гора ад розуму". Нар. 15.I.1795.
**100 гадоў назад**
11.2.1879 пам. А. Дам'е (нар. 26.2.1808), французскі жывапісец і літограф. Адзін з найбольш значных прадстаўнікоў рэалізму ў еўрапейскім мастацтве 19 ст.
**75 гадоў назад**
15.2.1904 нар. Л. Александроўская, беларуская савецкая спявачка і рэжысёр, народная артыстка СССР.
**40 гадоў назад**
12.2.1939 пам. Э. Самуйлёнак (нар. 5.8.1907), беларускі пісьменнік.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**Wydawca:**
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 202. Nakład 8 000 egz. S-1



*У музеі ветэранаў партыі.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## У інтэрнаце персанальных пенсіянераў

На першы погляд гэты белакаменны комплекс, што патанае ў зяляніне густога сасновага лесу, можна ўзяць за санаторый. Толькі пры ўваходзе на абшар гэтага мястэчка мы даведваемся, што тут знаходзіцца інтэрнат персанальных пенсіянераў. Жывуць тут заслужаныя людзі нашай рэспублікі. Гэта яны заваёўвалі Савецкую ўладу, адбудоўвалі народную гаспадарку пасля перамогі Вялікага Кастрычніка, стваралі і развівалі новую, сацыялістычную эканоміку і культуру ў часе першых савецкіх пяцігодак. Цяпер яны на заслужаным адпачынку. Сярэдні ўзрост пражываючых тут ветэранаў партыі і працы — 77 год. Усе яны знаходзяцца на дзяржаўным утрыманні. Кожны з іх мае асобны пакой з усімі выгодамі, атрымоўвае пяць разоў у дзень дыетэтычную ежу па свайму выбару, за здароўем пражываючых сочыць вялікая група лекараў, сярэдняга медыцынскага персаналу і нянь. Для паслугаў старэйшых людзей тут жа, у будынку, дзе яны жывуць, знаходзяцца лячэбныя кабінеты, працуе вялікая зала лячэбных гімнастычных практыкаванняў, у якой пажылыя людзі маюць магчымасць лячыцца і захоўваць сваё здароўе, для любіцеляў кнігі заўсёды адкрыты дзверы багатай бібліятэкі і чытальнай залы, дзе можна атрымаць жаданую кнігу, пачытаць газеты і часопісы. Тут добра арганізавана і культурнае абслугоўванне пенсіянераў. Для іх кожны месяц паказваюць не меней 16 фільмаў, праводзяцца даклады, гутаркі, перад імі выступаюць з канцэртамі аматарскія і прафесіянальныя артысты. Іншымі словамі, тут кожны мае цікавы для сябе занятак. Той, хто любіць настольныя гульні, тых можна ўбачыць за шашкамі ці шахматамі; другіх — у гуртку рукадзелля за вышыўкай і вязаннем; трэція — любуюцца і дагледаюць кветкі, чацвёртыя праводзяць час пры тэлевізары, пятых можна сустрэць у часе сяброўскай размовы пра мінулыя дні пражытага жыцця.

Адміністрацыя лічыць сваім галоўным заданнем ствараць у інтэрнаце такія ўмовы, каб ахаваць пенсіянераў ад усіх знешніх раздражненняў і пашыраць такую атмасферу, якая ўздзейнічае на пажылых людзей карысна, выклікае ў іх прыемныя адчуванні.

**Ф. Васільеў**
Фота Э. Трыгубовіча



*У гуртку рукадзелля.*




**У Казячым лесе ● Ключ ● Мінск, сталіца... ● Вайна зрабіла іх роднымі ● Запаленыя свечкі ● Інтэрв'ю з п'яніцай ● Гмінныя навіны ● Адкуль Міцкевічы? ● Весткі з Нараўкі, Гарадка, Ляўкова, Рыбалаў, Саколкі, Дубіч Царкоўных, Тапаркоў, Гайнаўкі ● Дзіцячыя куртачкі ● Калі сніцца тэкстыльны магазін ● Кастусь адкрывае калегу ● Міні-байкі ● Песня „Dwa razy dwa".**

З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ГЛЕБАВАЯ КАРТА РЭСПУБЛІКІ

Выдадзена „Глебавая карта Беларускай ССР". Гэта абагульненая шматгадовая праца вялікага калектыву вучоных, якія правялі буйнамаштабныя даследаванні глебы ў калгасах і саўгасах. Карта распрацавана і складзена Беларускім навукова-даследчым інстытутам глебазнаўства і аграхіміі на падставе абласных глебавых карт з дапамогай іншых навуковых арганізацый, устаноў, вытворчых прадпрыемстваў. Агульная рэдакцыя ажыццёўлена акадэмікамі Т. Кулакоўскай і П. Рогавым.

### КВАТЭРЫ НА ПАТОКУ

У Бабруйску ўступіў у строй завод буйнапанельнага домабудавання. Яго праектная магутнасць — больш як 100 тысяч квадратных метраў жылля ў год. Гэта дазволіць у паўтара раза расшырыць жыллёвае будаўніцтва ў горадзе беларускіх шыннікаў і адмовіцца ад увозу зборных канструкцый з іншых раёнаў рэспублікі.

### АБ МІРСКІМ ЗАМКУ

Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб рэстаўрацыі помніка архітэктуры XVI стагоддзя — замка ў гарадскім пасёлку Мір Гродзенскай вобласці і стварэнні на яго базе сярэдняга мастацкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча.

### СЯБРЫ ГАВОРАЦЬ ПА-ІСПАНСКУ

У сярэдняй школе № 17 г. Барысава дзеці вывучаюць іспанскую мову. На нядаўняй сустрэчы з кубінскімі студэнтамі, якія вучацца ў мінскіх вышэйшых навучальных установах, яны мелі магчымасць гаварыць па-іспанску. Госці школы пазнаёміліся з арганізацыяй вучэбна-выхаваўчага працэсу, вытворчага навучання, агледзелі кабінеты. Яны высока ацанілі іспанскую гутарковую мову школьнікаў.

Сустрэча закончылася сумесным канцэртам навучэнцаў і студэнтаў на іспанскай мове.

### ГЕАГРАФІЯ ПАСТАВАК

Каля пяцідзесяці назваў вырабаў рознага прызначэння выпускае сёння старэйшае прадпрыемства Ваўкавыска — завод ліцейнага абсталявання. Сярод іх — машыны зваркі трэннем, бегуны розных мадэлей, зіговачныя і вібрацыйныя машыны, устаноўкі для вадкаліўных самацвярдзеючых сумесей...

Сваю прадукцыю калектыў пастаўляе амаль ва ўсе ліцейныя цэхі краіны і больш як у 30 краін свету.




**Piątek 9 II** — 8.00 Film fab. 17.00 Hokej. USA—ZSRR. 19.40 Balet. 20.25 Koncert.

**Sobota 10 II** — 8.05 Koncert. 12.05 Film dla dzieci. 14.15 W świecie zwierząt. 15.15 Filmy anim. 15.45 Cyrk. 17.35 Film fab. 19.40 Koncert. 20.00 Hokej USA—ZSRR.

**Niedziela 11 II** — 9.00 Film fab. 12.00 Spektakl. 14.25 Koncert. 16.00 Panorama międzynar. 16.45 Filmy anim. 17.15 Klub film. 18.15 Film fab.




**Białowieża** King kong — USA 13—15. Śmierć przychodzi dwa razy — buł. 16. Człowiek klanu — USA 17—18.

**Bielsk Podl.** Asy przestworza — ang. 12. Brawurowe porwanie — fr. 13—14. W upalną noc — USA 15—16. Hop i jest małpolud — czes. 17—18.

**Czeremcha** Flip i Flap w legii cudzoziemskiej — RFN 14—15. Pirat — meks. 17—18.

**Czyże** Pogrzeb świerszcza — pol. Zamach w Sarajewie — jug. 14—18.

**Gródek** Pogrzeb świerszcza — pol. 17—18.

**Hajnówka** Krążek w bramce — radz. 12—13. Zasady domino — USA 14—16. Republika Łużycka — jug. 17—18.

**Michałowo** Czy zabiłem — fr. 13—14. Ostatni pociąg Gun Hill — USA 15—16. Od świtu do świtu — radz. 17—18.

**Milejczyce** Hallo Szpicbródka — pol. Mareczku podaj mi pióro — czes. 14—18.

**Narew** Dom pod czerwoną latarnią — węg. Pojedynek — ang. 14—18.

**Narewka** Beethoven — NRD. Czarne diamenty — węg. 14—18.

**Nurzec** Afonia — radz. 13—14. Joseph Andrews — ang. 15—16. Rebus — pol. 17—18.

**Orla** Lato z kowbojem — czes. W gwiezdnym pyle — NRD 14—18.

**Rajsk** Rozumiemy się bez słów — czes. Zdrajczyni — radz. 14—18.



# БРАНСК ЗІМОЮ

Малое мястэчка, атуленае снегам...

Цішыня і любаванне прыгажосцю існавання.

Таемныя і барвовыя ўспаміны перажытага цвітуць цёплай усмешкай на твары тутэйшага старажыла. З даўнішняй студні струменіць жывы крышталь. Ніхто не спяшаецца нават на цэнтральнай вуліцы. Пад буйнай снегавой поўсцю дрэмле хаціна, што ўзвёў яшчэ ў мінулым стагоддзі тутэйшы дойлід-умелец. І нават званіца не хоча падаваць ніводнага зыку, каб не парушыць гэтага салодкага спакою.

Люблю жыццё ў малым мястэчку зімою.

**М. Гайдук**
Фота аўтара







З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА

# ВЯСЕЛЛЕ

**(Выезд на шлюб)**

Шлюб, як правіла, адбываўся ў нядзелю. У вясельнай хаце ад раніцы быў рух. Зносілі сталы, лавы — рыхтавалі месца для вясельных гасцей. Сваты ўпрыгожвалі вазы, якімі мелі ехаць да шлюбу, чысцілі коней, абвівалі каляровай паперай дугі. Недзе гадзін ў дзесяць-адзінаццаць пачыналі склікаць гасцей. Склікалі маладыя. Маладая ішла са сваёй старшай дружкай, малады з старшым сватам. Абышоўшы вёску, вярталіся ў хату і пачыналі рыхтавацца да шлюбу. Малады апранаўся сам, маладую — дзяўчаты, якімі кіравала старшая дружка. Апраналі ў белае, што сімвалізавала дзявочую нявіннасць. На галаву накладалі прыбраны кветкамі вэлюм.

Пачалі сходзіцца госці. Іграе аркестр. Старшая сванька, а ў маладой старшая дружка, прышпільвае ўваходзячым у хату мужчынам банцікі з белай істужкі, прыбраныя міртам. Жанатым — на правы борт, кавалерам — на левы. Старшаму свату, каб выдзяляўся сярод іншых, прышпільвалі бант з доўгай стужкай, якая, перакінутая праз плячо, звісала недзе да паловы ног.

Госці сабраліся. Пачалі сядаць за стол. Першая сядае маладая. Яе месца было ў кутку пад абразамі. З левага боку было месца старшага свата, з правага — старшай дружкі. Таксама было і ў маладога, толькі што старшы сват сядзеў не з левага, а з правага боку. З левага боку было месца старшай ванькі (гэта той жа чын, што і старшая дружка, толькі тут выступае іншая назва). Маладым нельга было сядаць на голай лаве. Засцілалі яе або нейкай шкурай, або клалі на яе кажух ці нейкае пакрывала.

Селі. Распачалося застольнае перадвыезднае гасцяванне, якое, як і цэлае вяселле, ніколі не адбывалася без гарэлкі. Маладым есці і піць перад шлюбам забаранялася. Гэта ўжо тыпова хрысціянскае. Да шлюбу, так як і да прычасця, трэба прыступаць нашча. Гасцяванне праходзіла спакойна, без спеваў. Толькі недзе праз гадзіну, калі настаў час выезду на шлюб, пачулася:

*Колясом слонэчко*
*Всэ в гору йедэ,*
*Молоды(ая) (імя)*
*До шлюбу йедэ.*
*Ой йедэ, йедэ,*
*Шчэй одйіжджае,*
*Просіт батэнька*
*На спомогане.*
*Нэхай тэбэ, сынку (дочко),*
*Сам буог споможэ*
*І всіе святые,*
*Людэ добрые.*[1])

Пасля гэтага на паўмісак, засланы белай хустачкай, пачыналі класці грошы. Першымі падыходзілі бацькі. Потым хрышчоныя. І тут грошы, кінутыя хрышчонымі бацькамі, трэба было забраць і прыхаваць. Згодна з народным звычаем, перахоўвалі іх у вянчальнай іконцы на працягу ўсяго жыцця. Мелі яны прыносіць шчасце.

Даўшы на спамаганне, госці ўставалі і выходзілі. Рыхтаваліся да выезду да шлюбу. Маршалак, перавязаны насценным вышываным ручнікам, стукаючы валком у бэльку, звяртаўся да бацькоў: „Пане ойчэ! Пані матко! Блогословіетэ вашэ дітятко шчасліво в дуом божы заіехаті і на вінэць статі". Бацькі, узяўшы ікону, падыходзілі да сына ці дачкі, якія ў залежнасці ад прынятага звычаю або стаялі, або станавіліся на калені, і тры разы ёю перахрышчвалі, за кожным разам даючы яе цалаваць.

Пасля благаслаўлення ўсе пакідалі хату і выходзілі на панадворак, дзе чакалі запрэжаныя коні. Першай фурай ехалі або малады, або маладая. Сёння ўжо гэта не мае значэння, але некалі, як правіла, маладая ехала фурай з дзвюма запрэжанымі кабыламі, малады — двума жарабцамі. Побач з маладымі сядала іх світа. Калі ўсе ўжо сядзелі на вазах, бацька і хрышчоны бацька абыходзілі іх з боханам хлеба, пасыпаючы ўсіх збожжам ды хмелем і кропячы свянцонай вадой. Дзейнасць паўтаралі тры разы. Потым гэты бохан клалі перад першай фурай. Клалі так, каб можна было пераехаць яго колам, або хаця прынамсі конь змог растаптаць капытам. У некаторых ваколіцах, прыкладна ў Чыжах, замест бохана

(Працяг на стар. 5)

# ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

Яшчэ старэйшыя за мяне людзі гаварылі: *„Напішаш пяром, не вырубіш тапаром"*. Чалавека даўно ўжо няма ў жывых, а яго запісанае слова астаецца. Дык калі прачытаў я ў **„Газеце Вспулчэснай"** пра першую польскую газету, якая выходзіла ў Беластоку, адразу прыпомніў я, што тоўстая падшыўка гэтага тыднёвіка знаходзіцца недзе і ў маім старым куфры.

Трапіла яна да мяне яшчэ восенню 1939 года, калі мы зводзілі разлікі з памешчыкам Яцынай, уласнікам Янцэвіцкага маёнтку. Паімчаліся туды мужыкі, а я за імі, бо цікава было паглядзець панскія пакоі, на якія дагэтуль мы, пастушкі бацькоўскіх кароў і коней, маглі ўзірацца толькі здалёк, праз шырокія вокны. Пакуль я прапхаўся праз натоўп іншых цікавых, з палацавага багацця пана Яцыны асталіся толькі адны кніжкі, параскіданыя па падлозе, якімі ніхто не цікавіўся, бо мала хто тады ўмеў пісаць і чытаць. Каб не вяртацца дамоў з пустымі рукамі, укінуў я ў мяшок некалькі штук найбольш прыгожых і тоўстых тамоў з пазалочанымі літарамі і такім чынам знайшлася ў мяне поўная падшыўка гэтай першай, цяпер ужо гістарычнай, „Газеты Беластоцкай". Адным словам, *„хто ў бядзе ў пана ўкрадзе, як на полі знойдзе"*. Цяпер ад пышлівага палаца пана Яцыны засталіся адны толькі развалiны, а ў даўнейшым яго парку пасуцца сялянскія каровы, але кніжкі, якія я ў яго „канфіскаваў", асталіся ў мяне. На іх я навучыўся чытаць на польскай мове, карысталіся імі і суседзі, і мае дзеці. Памятаю, збіраліся бабы на вечарынкі прасці кудзелю, прыходзілі мужыкі і прасілі: „Пачытай нам, Максім!" То ж тэлевізараў тады яшчэ не было, а пра радыё толькі нямногія чулі і то святым крыжам хрысціліся, бо хто бачыў, каб з паветра

## НАПІШАШ ПЯРОМ ...



людскі голас чуваць было. Не інакш, гаварылі, гэта чортава сіла! Іншая справа, кніжка. То ж нават бацюшка ў царкве святое евангелле з кніжкі чытае!

Дык браў я гэтыя панскія кніжкі і чытаў уголас. Бабы і мужыкі найбольш рагаталі, калі знаёміліся мы з лёсам герояў „Дыля Савізджала" і „Дэкамерона".

Падшыўку тыднёвіка праглядаў я рэдка. І вось цяпер зноў узяўся за яе.

За акном снег, халаднавата, тэлевізар толькі шуміць, бо вецер антэну паламаў, а я абсталяваўся ля печкі і гартаю гэтую старую газету, якая выходзіла ад 1 снежня 1912 года да 3 мая 1914 года. Пад кожным нумарам падпісана: *„Рэдактар і выдавец: Канстанцін Касінскі"*, а пад загалоўкам „Газета Беластоцкая" выдавец інфармаваў, што гэты *„тыднёвы часопіс прысвячаецца справам Беластока і Гродзеншчыны"*, бо Беласток і ўся цяперашняя Беласточчына знаходзілася тады ў межах Гродзенскай губерні.

Газета каштавала 5 капеек. Многа гэта ці мала? Цяжка сказаць. Пара яек у студзені 1913 года на кірмашы ў Беластоку, як падае тая ж „Газета Беластоцкая", каштавала 6 капеек, а за пуд (40 фунтаў, або 16,38 кг) жыта патрабавалі 1 рубель 5 капеек, пуд аўса — 1,10 руб., пшаніцы — 1,25 рубель.

Што яшчэ цікавага?

У лютым 1914 года пад рубрыкай **„Мясцовая хроніка"** чытаем, што *„...у апошнія тыдні аднатавана ў Беластоку некалькі выпадкаў сыпнога тыфу"*, а *„танная кухня камітэта цвярозасці на працягу 1913 года выдала агу лам 44 тысячы 192 абеды."* Абеды каштавалі ад 6 да трох капеек. Выдана таксама 24 тысячы 409 бясплатных абедаў. Гэта для тых жыхароў Беластока, якія не мелі нават трох капеек, каб заплаціць за суп або чай.

Яшчэ тут можна даведацца, што 28 студзеня 1914 года 17-гадовая Браніслава Піцуўна, якая жыла ў доме Руткоўскага ў вёсцы Скарупы, напілася нейкай атруты. Папярэдняга дня атруціла-

(Працяг на стар. 5)

## Гмінныя навіны

# СУПРАСЛЬ

У гміне Супрасль ёсць 4470 гектараў зямельных угоддзяў. Зялёныя ўгоддзі займаюць 43% агульнай плошчы. Яны меліяраваны ў 84%. У 1978 годзе пачаліся меліярацыйныя работы на 250 гектарах лугоў і сенажацяў у ваколіцах вёсак Агароднічкі, Каракуле і Цяснэ. Яны будуць закончаны ў бягучым годзе. Таму ёсць спрыяльныя ўмовы для развіцця жывёлагадоўлі, асабліва быдла. Сяляне гадуюць больш 2370 штук рагатай жывёлы, у тым ліку 1337 дойных кароў.

На 40 спецыялістычных гаспадарак (даюць яны высокую сельскагаспадарчую прадукцыю) 15 гаспадарак спецыялізуецца ў гадоўлі малочных кароў і 8 ў гадоўлі ўбойнага быдла. У мінулым годзе сяляне Супрасльскай гміны купілі 91 штуку племяннога быдла. Прадалі яны 2,5 млн. літраў малака і поўнасцю выканалі гадавы план. Земляробы абгарадзілі 85 пасбішчаў для кватэрнага выпасу свойскай жывёлы. Шэсцьдзесят гаспадароў абсталявала сабе так званых электрычных пастухоў. На зіму найбольш спрактыкаваныя сяляне назапасілі 1000 тон кішонак, у тым ліку найбольш з травы і кукурузы.

Па пяць гаспадарак спецыялізуецца ў гадоўлі свіней і ў вырошчванні агародніны і па адным у гадоўлі авечак і ў садаводстве. Дагэтуль найлепшых поспехаў у вядзенні спецыялістычных гаспадарак дабіліся: Марыянна Каральчук з Генрыкова (яна займаецца вырошчваннем ранняй агародніны), Юзэф Трэцяк таксама з Генрыкова (які спецыялізуецца ў гадоўлі малочнага і ўбойнага быдла), Станіслаў Явароўскі з Засцянкаў (ён гадуе брайлераў), Міхал Ляўковіч з Сакалды (ён узяўся за гадоўлю кароў), Ванда Матэйчук з Агароднічкаў (яна спецыялізуецца ў адкормліванні свіней) і іншыя.

У мінулым годзе хлебаробы Супрасльскай гміны збіралі чатыры збожжавыя культуры з 1312 гектараў, у тым ліку найбольш жыта — з 636 га і аўса — з 568 га. Сёлета будзе пасеяна больш ячменю (у мінулым годзе было яго ўсяго 46 га). Сяляне атрымаюць для пасеву яго інтэнсіўныя сарты. Варта адзначыць, што мінулагоднія планы кантрактацыі жыта і бульбы былі паспяхова рэалізаваны. Найбольш было закантрактавана бульбы. Больш 600 гектараў.

У 1978 годзе жыхары вёсак пабудавалі тры аборы і мадэрнізавалі чатыры. Сёлета яны закончаць пабудову трох абораў і двух хлеўняў і мадэрнізуюць пяць абораў і адну хлеўню.

У конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“ першае месца заняла вёска Лазні і ва ўзнагароду атрымала 20 тысяч злотых, другое месца заняла вёска Генрыкова (10 тысяч узнагароды) і трэцяе месца — Грабоўка.

Званне Майстра па жывёлагадоўлі атрымала 4 гаспадары, а 12 сялян — званне ўзорнага гаспадара. 127 земляробаў атрымала дыпломы кваліфікаванага гаспадара.

У гэтым годзе сельскагаспадарчую адукацыю павышае на чатырох курсах кваліфікаванага гаспадара 120 сялян. У мясцовасцях Супрасль, Сакалда, Сабалева і Цяснэ наглядаецца значны ўдзел у гэтага роду занятках вясковых жанчын. Бывае і так, што на курс ходзяць бацькі і іх дзеці — сын або дачка. Цяпер у зімовы перыяд на вёсцы больш свабоднага часу на здабыванне ведаў па сельскай гаспадарцы. Жанчыны ахвотна ўдзельнічаюць у курсах па грамадска-палітычнаму абучэнню. Іх арганізуюць у кожнай гміне і яны прыняліся.

**Я. Целушэцкі**

## Ці ведаеце, што...

...у Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 58 сельскагаспадарчых прадукцыйных спалучэнняў (РСП) у 23 гмінах. Згуртоўваюць яны каля 2000 членаў. РСП гаспадараць на 17700 гектарах зямельных угоддзяў. Гадуюць 4200 штук быдла, 9420 свіней і 6330 авечак. У мінулым годзе РСП прадалі дзяржаве 9687 тон збожжа, 4992 тоны свойскай жывёлы і 1719 тысяч літраў малака.

**(яц)**



# ПАД ЗАЛАТОЙ ВЕХАЙ

(Працяг са стар. 1)

агульнай паверхняй у 900 кв. метраў.

Жывёлагадоўчы цыкл пачынаецца ў іх ад стойлаў для кныроў, затым ідуць клеткі для свінаматак, якія пасля апарашэння пераводзяць у суседнюю секцыю, адгароджаную сцяной.

Туды нас не пусцілі. У дзвярах стаў ветэрынар Уладзімір Сцепанюк і кажа глядзець праз акно, бо — не дай бог — хто яшчэ завалачэ нейкую заразу!

Сапраўды, небяспека вялікая і таму ўдзельнікі суполкі пастаянна трымаюць на гэтай ферме бальнічную чысціню. Нават самі пастаянна ходзяць у белых халатах.

— Не, — гаворыць лекар, — хваробы свіней тут не здараюцца. Можа часам панос у парасят, але рэдка...

Пакідаем свінагадоўчую суполку Бароўскіх пад вялікім уражаннем. *„Вось тут фабрыка грошай!“* — чую выказванні маіх спадарожнікаў.

*

Наступны прыпынак у Новай Волі пад Яновам, дзе паказваюць нам СКРаўскую тучарню. Цікавая яна тым, што перарабілі яе са звычайнай клуні і свінні стаяць тут на двух паверхах. Гэта называецца к л е т а ч н ы адкорм свіней. Дазваляе ён на такой жа жывёлагадоўчай плошчы прадукаваць амаль у два разы больш мяса.

Што ж, для вока спагадлівых сялян відовішча даволі сумнае, бо свінні тут маюць усяго столькі месца, каб насілу дапхацца да карыта. Але памятаць трэба, што свіней гадуюць не дзеля прыгажосці, а на мяса. Кіраўнікі нававолеўскай фермы гаварылі нам, што гэтая гадоўля зусім добра сябе апраўдвае.

*

Хацелася б яшчэ заглянуць да **Язэпа Казберука** з Юшкавага Груда, які гадуе кароў, пабываць у **Аляксандра Семяновіча** з Іванкаў у Нараўскай гміне, як таксама вялікі любіцель красуль, наведаць аўчара **Мікалая Лазовіка** з Сакоў пад Бельскам, або выдатнага свінапаса **Чэслава Белавуса** з вёскі Шчукі ў гміне Янаў. Аднак гэта ўжо іншым разам.

**Віктар Рудчык**






*На малюнку аўчарня Яўгенія Быстроўскага з вёскі Кулешэ Хоботкі ў гміне Крыпна.*

**УСПАМІНЫ (6)**




### ГАСПАДАРЧЫ СПОСАБ

Лета ў разгары. Вечары кароткія. Праца пры жніве цяжкая і неадкладная. На рэпетыцыі не было часу. Наступіў у іх перапынак. Але лета мінула хутка. Непрыкметна дні караце лі, а вечары раслі. Гаспадары збіралі з палёў збожжа. Пачыналі араць пад азіміну. Дзе-нідзе яшчэ іржавела грэчка, а бульба сваёй бруднай зеленню нагадвала, што трэба рыхтаваць матыкі.

Лён наш урадзіў. Праўда, працы пры ім было шмат. Два разы палолі, ды й вырываць не лёгка. Але ніводная з нас не здалася, усе вытрывалі да канца. Лён даставіў мне шмат клопату: пісала працадні, дастаўляла лён на скупачны пункт, атрымлівала грошы і дзяліла іх паводле унесенай працы.

Ураджай грэчкі быў слабы, але сабралі нядрэнна. У кожным выпадку, калі аплацілі ўсе выдаткі, даход атрымаўся не найгоршы.

Гмінная рада арганізавала раённыя дажынкі. Наш пеўчы калектыў рабіў дажынкавы вянок. Уручалі яго гаспадару дажынак. Спявалі таксама ў дажынкавым паходзе. Пасля дажынак у Гарадку, Ваяводскае праўленне ЗСХ у Беластоку запрасіла нас на цэнтральныя дажынкі, якія мелі адбыцца ў Любліне. Вялікі для нас гонар. У Люблінс неслі мы ваяводскі вянок і абдарылі ім гаспадара дажынак, таварыша Берута.

Неўзабаве прыйшло капанне бульбы. На рэпетыцыі сабіраліся раз у тыдзень, у нядзелю. Трэба было прыпомніць старыя і развучваць новыя песні. Набліжалася 35-я гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі. Арганізатары гарадоцкай урачыстасці разлічвалі на нас. Атрымалі мы таксама запрашэнне і з іншых мясцін. Апрача сваёй акадэміі, выязджалі толькі ў Беласток да Службы Польшчы.

У лістападзе ў Ольштыне праходзіў краявы з'езд плантатараў ільну і каноплі. Я як ініцыятар ільнаводства была запрошана на гэты з'езд. Працягваўся ён тры дні. Удзельнікаў было шмат. Была таксама прыгожая сельскагаспадарчая выстаўка. А вечарамі, пасля вячэры, іграў аркестр Генрыка Дэбіха. Мне пашанцавала не толькі сядзець за адным сталом з „Прыгожым Генем“, але і танцаваць. Быў сапраўды прыгожы.

Выкарыстоўваючы свабодны час і доўгія вечары каляднага посту, прапанавала я падрыхтаваць на каляды сцэнічны твор (у маі аб'ядналіся мы з драматычным гуртком). Апрача высокай ідэі (распаўсюджванне культуры) кіравалася і зямной рэчаіснасцю. Трэба было крыху зарабіць. На патрэбу калектыву не мелі мы ніякіх іншых грашовых сродкаў, апрача тых, якія самыя зарабілі. Выставілі трагікамедыю А. Астроўскага „Не ўсё кату масленіца“.

Я ўжо гаварыла аб крыніцы, з якой чэрпала матэрыял для праграмы але дагэтуль не ўспамінала нічога аб тым, як вучыла спяваць знойдзеныя песні. Ох, з гэтым было куды цяжэй! Тэорыю ведала слаба. Апрача гітары, на іншым інструменце не іграла. Таму адзіным дапаможнікам у вядзенні хору была гітара. Яна памагала ў вывучэнні новых песняў, задавала тон, акампаніравала. Ну і выдатна памагаў вельмі добры музычны слых маіх сяброўак. Хор вяла танным коштам, так званым гаспадарчым спосабам.

Праца на радыёвузле была маім другім хобі. У рэдакцыйную праграму ўвяла мясцовыя весткі (дзённік) — выклікала гэта вялікае зацікаўленне насельніцтва — і канцэрты па заяўках, у якіх ахвотна выступалі мае сяброўкі (у дуэтах, тэрцэтах, квартэтах). Неўзабаве наш радыёвузел прэтэндаваў на першынство ў краіне.

Праз гэтыя дзве галіны грамадскай працы: самадзейны мастацкі рух і рэдакцыйны камітэт, якім прысвяціла сябе без рэшты, усё часцей маё прозвішча паяўлялася на старонках ваяводскага друку, а мясцовае насельніцтва адносілася да мяне з даверам.



**Беларуская літаратура** — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XXV

Рамантычныя ўласцівасці паэмы праяўляюцца таксама ў стылістыцы выказванняў закаханых герояў. Іх мова характарызуецца метафарычнасцю, узвышанасцю. гіпербалічнасцю. Дыялагі часта адзначаюцца тэатральнасцю і ненатуральнасцю. Вось словы, скіраваныя Сымонам да Ганны:

*Залатыя твае слоўкі —*
*Мая песня ў час вандроўкі,*
*Ты, як бы дала мне крылля,*
*Многа радасці дала.*

У адказах Ганны не менш штучнай высакамернасці:

*„Гавары ж мне, будзь са мной,*
*Чуць хачу я голас твой.*
*Бо твой голас — песня кветак“.*

Такая стылістычная карыкатурнасць дазволіла некаторым крытыкам, не разумеючым рамантычнай эмацыянальнасці паэмы, параўноўваць Сымона з камічнымі літаратурнымі персанажамі. І так, Ю. Гаўрук, зрэшты, аўтар цікавага артыкула аб паэме Коласа, піша:

„Колас прымушае яго (Сымона — А. Б.) яшчэ раз развітацца, каб у новых вандраваннях, як славуты Дон Кіхот з Ламанчу, выявіць сябе шырэй, зрабіцца дастойным Табоскае Дульцынеі — дамы сэрца“.

Параўнанне зусім недарэчлівае. Колас, пішучы балючую паэму „Сымон-Музыка“, быў далёкі ад саркастычнага настрою Сервантэса, але быў блізкі да рамантыкаў, для якіх каханне было богам, а багам, як вядома, усё можна. Можна таксама гаварыць незвычайнай мовай.

Бадай што апошняй уласцівасцю прадстаўленага ў паэме кахання з'яўляецца яго дабрачынны высакародны ўплыў на чалавека. Закаханыя героі Сымон і Ганна носяць у сваіх сэрцах альтруістычнае пачуццё любві да добрых людзей, прыроды і роднага краю. Каханне і музыка маюць цудадзейную моц. Яны перамагаюць страшэнную хваробу Ганны — вар'яцтва.

Зразумела, што прыпісанне каханню і музыцы магічных уласцівасцей можна растлумачыць выключна сувязямі „Сымона-Музыкі“ з рамантычнымі прынцыпамі.

Адной з асноўных рыс у трактоўцы кахання ў паэме з'яўляецца ідэалізацыя і фетышызацыя гэтага пачуцця. Згодна з рамантыкамі пісьменнік уцякае ад кахання лёгкага ў бок кахання складанага. Множыць ён цяжкасці, павялічвае перашкоды, якія безупынна мусяць перамагаць закаханыя героі. Горыч развітання, боль самотнасці, трывожная надзея, асалода сустрэчы, усё гэта складаецца на многапаўторны матыў паэмы. Закаханыя героі Коласа змагаюцца з аб'ектыўнымі цяжкасцямі. Калі іх няма, тады змагаюцца з сваімі пачуццямі, з суб'ектыўна прыдуманымі перашкодамі. І ў гэтым Колас лішні раз захоўвае вернасць рамантыкам:

„Rozkoszą miłości romantycznej jest walka. Jeśli nie ma z czym walczyć, to wszystko gładko się składa, trzeba przemocą wynaleźć trudności. Wprost przeciwnie jak w wieku Oświecenia, tam chodziło o minimum, tutaj o maksimum trudności. Zawsze i wszędzie musi działać dysharmonia między światem a nami, między nią a nim. Romantyk upija się przeciwnościami i jak pijak do nich tęskni, sam je zmyśla, wynajduje, zaczepia i wyzywa do walki.

A zresztą dość ich znajdzie i bez szukania. W konwenansach życia, w kobiecie, a już najczęściej w duszy człowieka romantycznego, który jest bezwolnym i apatycznym, który do wysokości dogmatu podniósł dziedziczną neurastenię i histerię. Dlatego zamiar tak często spala na panewce. Miłość romantyczna jest dzieckiem wyobraźni i podlega wszystkim jej prawom”. (S. Wasylewski. O miłości romantycznej. Kraków 1958, s. 18).

Прыведзены фрагмент можа быць ключом да зразумення рамантычнай трактоўкі кахання ў паэме „Сымон-Музыка“.

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВЯЛІКІ РАСЦІ

Як быў я яшчэ малым хлапчуком, любіў кожнаму зрабіць паслугу, за што мне гаварылі: „Вялікі расці!“. І ведаеце што? Мяне выгнала, як дуб.ну. Больш, як 185 сантыметраў. Вы скажаце, у чым жа тут справа? У нас такіх людзей ёсць шмат.

А справа ў тым, што, калі чалавек вялікі, то не купіць чаравікаў, бо як кажуць, „па Сёмку і шапка“. Такі чалавек не можа хадзіць на курынай лапцы, бо адпаведна і нага расце. А паспрабуйце купіць абутак нумар 12. Я ўжо два гады наведваю ўсе крамы з абуткам у Крынках, Саколцы і Беластоку. А крамары кажуць мне: „Не вы адз.н хочаце купіць 12 нумар, а ў нас ужо два гады не было такога абутку, а калі і пакажацца пару пар, дык расхопяць, нягледзячы на якасць“. А мне не павязло. Купіў я 11 — фільцы гумовыя, ды панаціскаў мазалі і мамарозіў ногі, не магу нікуды вылезці.

Дарагая „Ніва“, як вы будзеце высылаць запрашэнне на з'езд карэспандэнтаў (**ад рэд.:** мы ўжо выслалі запрашэнне, не ведаючы пра вашу бяду, прыязджайце ў лапцях), дык мяне не запрашайце, бо і так не змагу прыехаць, хаця і шкада не пабываць з вамі. Яшчэ каб з'езд адбываўся ў цёплы час, то я маю адны вылыганыя туфлі, у іх мог бы прыехаць, а так выбачайце.

Дарагая „Ніва“, пры нагодзе за вашым пасрэдніцтвам хачу перадаць усім рабочым, на чале з дырэктарам фабрыкі абутку —
DZPS „Odra" w Oleśnicy, Zakład Obuwia w Kamiennej Górze, oraz Wielkopolskie Zakłady Obuwia
з новым 1979 годам сардэчныя пажаданні доўгіх год жыцця ў шчасці і здароўі, задавальнення з працы, ды каб ім усім параслі вялікія ногі на нумар 12 і 13. Тады можа падумалі б пра вялікіх людзей.

**Э. Ш.**

**Тамашу Кірылаву з Легніцы**

## НЕ ВЫРАКАЦЦА РОДНАГА ДЗЕ Б ТЫ НЕ БЫЎ

Уцешыў мяне ліст Тамаша Кірылава з Легніцы, надрукаваны 14 студзеня г.г. у нумары 2 (1194) у рубрыцы „Наша пошта“.

Тамаша Кірылава цікавіць усё, што беларускае, і нават далёкая адлегласць яго сталага месца пражывання ў Легніцы нічуць яго не турбуе, ён астаецца верны сваёй роднай зямлі і ўсё, што звязана з ёю, яго цікавіць.

Але ці ўсе нашы землякі такія? На жаль, далёка да гэтага. Як ведаем, беларусы раскіданы па ўсёй нашай краіне і многія з іх ужо забылі, адкуль іх род і саромяцца роднай мовы. Іх дзеці часта не ведаюць, што бацькі беларусы. Ці не крыўдна гэта?

І такіх, як Тамаш Кірылаў, нямнога знойдзецца, таму я яшчэ больш палюб.ў гэтага высакароднага чалавека і жадаю яму ўсяго найлепшага ў жыцці і шлю сардэчныя прывітанні.

**Мікалай Панфілюк**

## ЗАЙМАЦЦА СПОРТАМ?

Настала зіма. І няма дзе іграць у футбол. Усе спартсмены з Галадоў рашылі аднак зімой таксама займацца спортам. Знайшлося вельмі многа маладых, якія захацелі іграць у настольны тэніс. Адразу нарадзілася пытанне: а дзе дастаць тэнісны стол?

Пайшлі мы раз і другі ў ЛЗС у Бельску, а там нам усё абяцалі, што стол дадуць. Чакалі месяц, чакалі два, а стала яшчэ няма. А калі ён будзе? Можа праз год ці два?

І як тут можна гаварыць аб пашырэнні спорту на вёсцы?

**Спартсмен**

## ПРОСТА З ГМІНЫ

У Нараўскай гміне ў мінулым годзе адбылося ў ЗАГСе 59 шлюбаў. Памерла 57 асоб.

Гэта абазначае, што прырост насельніцтва ў Нараўскай гміне павялічваецца.

❊

Карна-адміністрацыйная калегія пры начальніку гміны ў Нарве за мінулы год разгледзела 269 спраў. Трэба прыняць неабходныя меры, каб скончыць з хуліганствам.

Варта над гэтым сур'ёзна падумаць і прыступіць больш актыўна да прафілактычнай працы ў асяроддзі. Варта, каб гмінныя ўлады супольна з грамадскімі дзеячамі арганізавалі нараду і смела ўзяліся за працу.

**М. Лук'янюк**

## МІКАЛАЙ БАНДАРУК І ЯГО ГАЗЕТА

Ведаем, што кожны чалавек любіць нешта старое збіраць і перахоўваць. Селянін Мікалай Бандарук з вёскі Чэхі Арлянскія перахоўвае адзін нумар газеты, якая выходзіла ў час вайны ў Маскве, а называецца „Фронтовая правда“. Адзін нумар яе трапіў у дом Бандарукоў у той час, калі ўжо гналі немцаў на захад. Яго бацька, які ўжо не жыве, прыхаваў гэтую газету і як рэліквію падарыў сыну, а ён нядаўна паказаў яе мне.

Прачытаў я гэтую газету і хачу падзяліцца з чытачамі „Нівы“ яе зместам і падаць загалоўкі некаторых франтавых артыкулаў. Дык вось: „Фронтовая правда“ № 223 (1141), ежедневная красноармейская газета, четверг, 21 сентября 1944 года“. Гэта поўны загаловак.

На першай старонцы вялікімі літарамі выведзена: „Доблесные войска Ленинградского фронта одержали новые победы“; „Приказ верховного главнокомандующего маршалу Советского Союза Говорову“; „Схватка в траншее врага (дерзкий налёт разведчиков младшего лейтенанта Бабашкова)“; „Массированные налёты нашей авиации на Будапешт и Сату-Маре“.

На другой старонцы: „Соглашение о перемирии между Союзом Советских Социалистических Республик и Соединённым Королевством Великобритании и Северной Ирландии с одной стороны, и Финляндией с другой“.

На трэцяй старонцы: „Успех одного поиска (разведчики группы лейтенанта Иваницева умело выполнили боевую задачу)“; „Связь в наступлении (так прокладывает линию отделение Казанцева)“; „Парторг танковой роты“; „Рукописный журнал „Огневик“.

Невялікая газета, бо толькі чатыры старонкі, але колькі цікавага там чалавек знойдзе!

Адносна самога Мікалая Бандарука. Гэта не толькі добры селянін, мае ён нават уласны савецкі трактар, але і добры збіральнік усяго старога. Каб больш такіх!

**М. Панфілюк**

## САПСАВАНЫЯ ТЭЛЕФОНЫ

Для жыхароў Бельска тэлефонныя аўтаматы — гэта вялікая выгада. 13 такіх аўтаматаў ёсць у горадзе. Мае быць новы аўтамат на вуліцы Жэромскага.

Ды бельскія тэлефонныя аўтаматы цяпер выглядаюць, хоць ты плач. Няма ў іх тэлефонных кніжак, пакрадзены розныя часткі тэлефонаў, павыбіваны шыбы. Тэлекамунікацыйная служба сістэматычна ходзіць і напраўляе ўсе шкоды, але нават і ім цяжка ваяваць з бяздумнасцю і хуліганствам.

**Румі**




## ДАЙЦЕ ПАРТРЭТ ДЗЯДЗЬКІ КВАСА!

*І ў горадзе, і ў вёсцы,*
*Як у нас, так і у вас,*
*У „Ніве“ на сваёй „Палосцы“*
*Выступае дзядзька Квас.*

*То не той квас, што ён з дзежкі*
*І накрыты векам.*
*З дзядзькам Квасам няма смешкі,*
*Наш Квас — чалавекам!*

*Квас наш — добрага вырабу,*
*Чысты й не закіслы,*
*Лечыць нават бракаробам*
*Хворыя умыслы.*

*Напісаў бы можа йначай,*
*Каб быў я паэтам, —*
*Ніхто „Ніву“ ў нас не бачыў*
*З Квасавым партрэтам.*

*Ў нашай вёсцы ўсе жанчыны*
*Цікавяцца моцна*
*Дзядзькам Квасам, ён — з цытрыны,*
*Ці бутэлька воцату?*

*Квас! Не плесней і не прэсней,*
*І зімой, і на прадвесні*
*Свежы будзь, праз цэлы год!*
*Гэта просіць ўвесь народ!*

**Ф. Хлябіч**

## Адзін адказ аб „НІВЕ“

Я хачу запытацца, чаму цяпер так мала „Нівы“ ў кіёсках „Рух“? Я мала калі магу дастаць яе. Хаджу па ўсіх кіёсках і ў некаторых прадаўшчыца з-пад прылаўка дасць адну. Выглядае гэта, як бы крадзеная была. Чаму не ляжыць яна ў вітрыне?

**Л. Грош**

**Ад рэд.** *Кіёскі „Рух“ атрымліваюць вельмі мала экземпляраў „Нівы“. Яны прадаюцца часта за адзін дзень. Таму цяжка „Ніву“ купіць у кіёсках. Найлепшы з гэтага выхад — зрабіць падпіску на „Нву“ і найлепш на цэлы год. Тады ёсць гарантыя, што кожны атрымае.*

## Браць з іх прыклад

Цяжка звярыне зімою. А яшчэ ў гэтую зіму, калі снегу ўсюды па самыя вушы. Добра было б, каб часцей можна было ўбачыць каля лесу і на полі кармушкі з сенам і зернем.

Ёсць у нас добрыя апекуны над дзікай звярынай і яны стараюцца, як могуць. Да такіх можна залічыць Вяслава Гадзыка з Дубіч Царкоўных. Ён паляўнічы і ляснічы прыватных лясоў і ўсюды на яго тэрыторыі расстаўлены кармушкі з кормам. Нідзе тут не сустрэнеш здохлых звяроў. Другім такім чалавекам з'яўляецца Георгі Сцепанюк — ляснічы лясоў „Ялёнка“, які пражывае ў гаёўцы недалёка ад вёскі Чэхі Арлянскія. Таксама Васіль Масальскі з Чэхаў Арлянскіх — гаёвы гэтага лесу, які канчае вось Лясны тэхнікум у Белавежы. Бярыце прыклад з гэтых людзей, з любіцеляў жывой прыроды.

**М. Панфілюк**




Сёння інфармуем аб непрыемных сігналах, што выпісаная „Ніва“ не даручаецца падпісчыку ўвогуле, або нерэгулярна даручаецца, або гінуць па дарозе найважнейшыя для чытача нумары.

Такі ліст, правільней два лісты атрымалі мы ад нашага падпісчыка з вёскі Завыкі, пошта Сураж — Мікіты Аўсейчука. Першую сваю скаргу-ліст ён назваў „Куды дзелася „Ніва“? Ён піша: „Ніколі я яшчэ не пісаў у рэдакцыю, хаця „Ніву“ чытаю пастаянна, але далей цярпець ужо не магу. На пошту ў Сураж прыходзіць чатыры „Нівы“, а да нас ў Завыкі — тры, адзін экземпляр ідзе ў Канцавізну. Але як „Ніва“ прыходзіць? У пятніцу вельмі рэдка, але многа разоў аж у панядзелак, а то і ў аўторак. А вось і за апошнія два тыдні (падае тыя тыдні) і зусім дзесьці па дарозе прапала, а можа, часам думаю, выходзіць перастала? Я, праўда, заплаціў за ўвесь новы 1979 год за „Ніву“, але рэшта сяброў баяцца плаціць, што, моў, нічога невядома“. Свайму новаму лісту на тую ж тэму наш чытач даў загаловак: „Непраходная дарога для „Нівы“, дзе піша: „Не ведаю, што за прычына такая можа быць — па ўсіх дарогах „Ніва“ ходзіць і да чытачоў на час даходзіць, а па дарозе з Беластока праз Лапы і на пошту Сураж такая для яе дрэнная дарога, што мала калі перад нядзеляй паспее, а то і завее яе па дарозе і загіне. Я ўжо пісаў у рэдакцыю, што адзін нумар не прыйшоў у Завыкі, а вось і самы дарагі для нас чытачоў навагодні нумар з календаром загінуў. Пошта ў Суражы тэлефануе ў Лапы, у кальпартаж — чаму „Ніва“ не прыйшла? Адказ: няма, і на тым канец“. Інакш, хоць таксама вельмі цікава і дасціпна скардзіцца на тое ж самае наш чытач з Лодзі — Баляславў Клінцэвіч: „Па невядомай прычыне „Ніва“ захварэла — амаль месяц (ад 19 лістапада) яна не прыходзіць да мяне, а заплаціў я за яе прыход да 31.12.1980 года. Чакаю аздараўлення „Нівы“ і яе рэгулярнага прыходу, не хачу адчуваць яе непрысутнасці са мной... Працаўнікам „Нівы“, яе карэспандэнтам і ўсяму БГКТ жадаю добрага здароўя, шчасця, хай 1979 год будзе вам сокам беразы...“

**Наш адказ тут:** такія, як вышэй, з'явы трэба сігналізаваць. Мы гэтыя справы для рэгулявання кіруем кальпартажу, розным яго агенцыям. Яны вельмі сур'ёзна бяруцца за іх. Але ў Завыках ўжо даўней павінна справа была паправіцца. Таксама просьба да чытачоў: калі такія з'явы выступаюць, ніколі не складайце рук, скаргі пакідайце і на пошце, і ў пісьманосцаў, і пішыце ўсюды вышэй. „Ніва“ па падпісцы павінна дайсці да кожнага падпісчыка рэгулярна і тэрмінова.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ЛУБІН У КАЗЕІНЕ“, „Ніва“ № 51/1190 ад 17 снежня 1978.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKA SPÓŁDZIELNIA MLECZARSKA w BIAŁYMSTOKU, ZAKŁAD MLECZARSKI W HAJNÓWCE.**

W odpowiedzi na notatkę pt. „Łubin w kazeinie" Dyrekcja Zakładu Mleczarskiego w Hajnówce wyjaśnia.

Rozumiejąc trudną sytuację w rolnictwie, jaka nastąpiła w związku z ciągłymi opadami deszczu, oraz zaleceniem Wojewódzkiej Rady Narodowej odnośnie wykorzystania wszystkich możliwych środków w celu przyjścia rolnikom z pomocą w wysuszeniu płodów rolnych, podjęto decyzję o wykorzystaniu jednego sita przeznaczonego do suszenia ziarna, nie przerywając normalnego toku produkcji kazeiny.

Na pewno wiązało się to z pewnym ryzykiem pogorszenia jakości kazeiny, ale korzyści, jakie spowodowało uratowanie od zepsucia płodów rolnych, na które rolnicy i piszący powyższą notatkę korespondent czekali przez cały rok, przewyższyły straty. **W okresie od 29.IX. do 11.XI.1978 r. wysuszono w naszym Zakładzie łubinu 209,5 ton, żyta 39 ton, grochu 8,5 ton i jęczmienia 1 tonę. Za powyższe usługi nie pobieraliśmy od rolników żadnych opłat traktując to jako doraźną pomoc dla swoich członków Spółdzielni — dostawców mleka.**

Zaznaczamy jednocześnie, że Zakład udostępnił rolnikom tylko urządzenia suszarnicze, a czynności związane z suszeniem wykonywali rolnicy we własnym zakresie.

Ponieważ suszenie ziarna odbywało się jednocześnie z suszeniem kazeiny, obsługę fachową związaną z włączeniem i wyłączeniem urządzeń sprawowali pracownicy Zakładu. W tym okresie nie zanotowano żadnego wypadku w suszarni, a sami rolnicy byli wdzięczni za okazaną im pomoc.

Trudno polemizować z anonimowym czytelnikiem na temat przydatności tego wysuszonego łubinu, jedno jest pewne, łubin został wykorzystany i to jest lepsze niż miałby zgnić u rolnika. My nie posiadamy typowych urządzeń do suszenia ziarna, lecz wykorzystaliśmy suszarkę do suszenia kazeiny, która nie nadaje się do suszenia ziarna siewnego, o czym rolnicy byli uprzedzeni i wysokość temperatury tu nie odgrywa większej roli, ponieważ w przypadku łubinu, był on przeznaczony na cele przemysłowe m. innymi w gorzelni.

Przyznajemy całkowitą słuszność korespondentowi, że suszenie zboża razem z kazeiną było poważnym utrudnieniem dla Zakładu i pracującej tam załogi .Duże zapylenie groziło pogorszeniem jakości kazeiny dlatego z dniem 11.XI.78 przerwano suszenie zboża. Do suszenia zboża przystąpiliśmy po raz pierwszy od powstania Zakładu, nie mając w tym kierunku żadnego doświadczenia i bez żadnego przygotowania, traktując to jako doraźną i natychmiastową pomoc dla rolnictwa. Dopiero w praktyce okazało się, że trudno jest pogodzić suszenie zboża i kazeiny w jednym pomieszczeniu i w przyszłości zaniechamy tej praktyki.

Dziwi mnie tylko postawa Waszego korespondenta, który widząc pewne niedociągnięcia w naszej pracy, będąc jak sam pisze w Zakładzie, nie mógł zgłosić tych uwag bezpośrednio do Dyrekcji, ale dopiero napisał do prasy z miesięcznym opóźnieniem. Na marginesie interesuje mnie osobiście zamieszczona ciekawostka, że kazeina jest dodawana do wyrobu kiełbasy. Wdzięczny byłbym korespondentowi, żeby podał, skąd zaczerpnął tę informację.

Wiadomym jest, że kazeina jest półproduktem służącym do wyrobu różnego rodzaju dodatków, może i do wędlin, w żadnym wypadku, jako kazeina, nie jest dodawana do artykułów spożywczych. Taka informacja w poczytnym czasopiśmie może być różnie odebrana przez czytelników. Na ten temat odbieram bardzo dużo rozmów telefonicznych, a nawet pytań ze strony rolników, powołujących się na powyższą notatkę.

Dyrektor
**inż. Andrzej Pryzowicz**

**Ад рэд.** Мы рады вышэй прыведзенаму клапатліваму і дакладнаму адказу дырэктара Прызовіча. Колькі новых і цікавых інфармацый ў ім. У адказе чытаем аб вялікім заангажаванні ў сваёй працы людзей, працуючых на малочнай фабрыцы ў Гайнаўцы і асаб.ста дырэктара, які знаходзіцца ў самай гушчы спраў свайго прадпрыемства. За такі адказ сардэчна дзякуем. Гэта нават не адказ, а публіцыстычны матэрыял.

Не думаем, што кепска зрабіў карэспандэнт, што напісаў у рэдакцыю. На тое ён карэспандэнт, а зацікаўленне, якое выклікаў, дало карысныя вынікі ўсім. Так і трэба. Людзі даведаліся многа аб справе, пра якую не ведалі. З гэтага вывад адзін: было б яшчэ лепш, каб яшчэ больш розных нітак, розных нашых спраў знаходзілі сваё месца на старонках „Нівы“, так сказаць, сустракаліся тут у сваім развіцці. Адносна пэўных няяснасцей, думаем, наш карэспандэнт адазвецца і напіша зноў.

# Буду піць... чай!

Знаходжуся я ў стане спакою. Нагадваю сабой пад'ёмны кран: адна нага, нібы страла, узнялася да столі, а на другой груз падвешаны. Рукі таксама знаходзяцца ў цеснай сувязі з прадукцыяй гіпсавага завода. Адно заспакаенне, што гэта мне ўрокам будзе на будучыню.

А то раней было: куды ні прыйду — усё чай прапануюць. Кажуць: „На чай!"

А я па сваёй душэўнай прастаце тлумачыць пачынаю, што больш какаву люблю.

Памятаю, прыйшоў у атэлье індпашыўкі. Кажу, хачу модны касцюм пашыць у сціслыя тэрміны. А яны адразу ж: „На чай!", — кажуць. Я, як звычайна, ад чаю ласкава адмовіўся і пра какаву намякнуў. У выніку яны замест таго, каб скараціць тэрміны, у спешцы штаны скарацілі, ды так, што яны ледзь ці не карацей за пінжак аказаліся. Вам смешна?! А паспрабавалі б вы зімой у шортах пахадзіць!

А з мэбляй як было? Сем гадоў у чарзе стаяў. Атрымаў, нарэшце. Хлопцаў узяў, каб на восьмы паверх узняць. Хлопцы моцныя, хваткія. Адзін ружовашчокі такі, а ў другога рукі свербяць — работы просяць. Не паспелі яны з машыны выйсці, як чую: „Гаспадар, на чай!" Вельмі любячы какаву, я, вядома, падзякаваў хлопцам і ад чаю, як заўсёды адмовіўся. Гляджу, той, што ружовашчокі — бледны стаў, а ў таго, што рукі свербелі, дык яшчэ больш замітусіўся. Не буду падрабязна ўспамінаць пра тое, як ружовашчокі ўвесь час па дарозе шафу цягнуў і як выпадкова два разы на лесвічнай пляцоўцы сервант упускаў... Скажу толькі, што прыйшлося назаўтра не толькі „новую" мэблю ў скупку адвезці, але і за свой кошт рамонт у пад'ездзе рабіць, праўда, толькі да восьмага паверха.

Стрываў і гэта. Але калі з-за гэткага ж чаю замест майго шыкоўнага рацінавага паліто гардэробшчык у рэстаране мне прамасленую фуфайку падсунуў, тут я зусім страціў надзею.

Не бачачы ніякага ратунку ад гэтага фатальнага чаяпраследавання, сеў у першы поезд, што трапіўся, і паехаў куды вочы глядзяць. Не паспеў я зняць з сябе фуфайку, як адчыніліся дзверы купэ і ўвайшла правадніца з поўным падносам. „Чаю не жадаеце?" — ветліва спытала яна. Нічога не гаворачы, я так ірвануў з купэ, што адну нагу зламаў, а другую падвярнуў...

**Леанід Бандаровіч**



*Журы.*



**Казаў, што свет цесны, а сам адзін жыў у трохпакаёвай кватэры.**

# НІЎКА



## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!

*Каму прысвячаецца-той здагадаецца*

**Іван Крылоў**

## Слон і Моська

По вуліцы Слана вадзілі,
Нібыта на паказ —
Вядома, што Сланы за дзіва ў нас, —
Дык за Сланом натоўпы пазявак хадзілі.
Аднекуль выбегла насустрач Моська ім.
Убачыўшы Слана, давай к яму вязацца,
Скуголіць і вішчаць, і брэхам заліваццa.
Ну так і лезе ў бойку з ім.
„Суседка, кінь сарамаціцца, —
Ёй кажа Шаўка. — Ці ж табе з Сланом вадзіцца!
Глядзі — ты ўжо хрыпіш, а ён сабе ідзе
І вухам не вядзе".
Сяброўка Мосьцы заўважае:
„Што за карысць з брахні твае?"
„Эх, эх, — адказвае ёй тая. —
Вось гэта мне і духу паддае,
Што я без бойкі без ніякай
Магу ў вялікія папасці забіякі,
Няхай жа кажуць пра мяне сабакі:
„Ай, Моська! Дужая ж яна,
Што брэша на Слана!"

*Пераклаў А. Якімовіч*



**На шырокім свеце**

**ЗАГАД**

**Ён** (сакратарцы): — Пішы загад: За прагул у рабочы час сакратарцы Соні Прыдрэмавай аб'явіць вымову...

**Яна** (друкуе): ...аб'явіць... аб'явіць... Ой, літара „в" не прабіваецца, Іван Іванавіч...

**Ён:** Дык слова замяні, хіба не ведаеш... ну, хоць бы: „грамадскае ганьбаванне..."

**Яна:** „Г" таксама сапсавалася... Каб на „п"?

**Ён:** Давай на „п", толькі хутчэй, лятучка ў мяне гарыць!

**Яна** (друкуе): ...аб'явіць па-дзя-ку. Усё. Падпісвайце, Іван Іванавіч.

**Ён** (падпісваючы): Будзеш ведаць, як спазняцца.

**Яна:** Усе будуць ведаць, Іван Іванавіч.



— *Дзякую, я не збіраюся купляць пісталеты!*

**НА ЎСЕ СТО**

— Для каго хаця твая жанчына вымоджваецца?

— Дакладна падлічана: на 7 працэнтаў — для мяне, на 10 — для суседа і на 83 працэнты для сваіх сябровак. Сто працэнтаў карысці!

**УСЁ НААДВАРОТ**

— І чаму гэта маёй жонцы дазарэзу хочацца зрабіць наадварот усё тое, што прашу я?

— Відаць, таму, што і ты робіш гэтак жа.

**ДОКТАР ЗНАХАРУК**

Доктар Знахарук гаворыць пацыентцы:

— Не трэба так шырока раскрываць рот.

— Але ж вы самі сказалі мне, што павінны ўвесці туды люстэрка і інструменты.

— Але ж сам я застаюся звонку.

**З „Весніка Задрыпоніі"**

**ПОЎНЫ СЕРВІЗ**

У піўных барах Задрыпанкі за невялікую даплату вам дальюць куфаль даверху.



**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

*По просьбе Галіны Красько з Ягаднік змяшчаем песню*

## ЕРМАК

**Стихи К. Рылеева, музыка народная**

*Ревела буря, дождь шумел,*
*Во мраке молнии блистали,*
*И беспрерывно гром гремел,*
*И ветры в дебрях бушевали.*

*Ко славе страстию дыша,*
*В стране суровой и угрюмой,*
*На диком бреге Иртыша*
*Сидел Ермак, объятый думой.*

*Товарищи его трудов,*
*Побед и громкозвучной славы*
*Среди раскинутых шатров*
*Беспечно спали средь дубравы.*

*Страшась вступить с героем в бой,*
*Кучум к шатрам, как тать презренный,*
*Прокрался тайною тропой,*
*Татар толпами окруженный.*

*Мечи сверкнули в их руках,*
*И окровавилась долина,*
*И пала грозная в боях,*
*Не обнажив мечей, дружина.*

*Ермак воспрянул ото сна*
*И, гибель зря, стремится в волны,*
*Душа отвагою полна...*
*Но далеко от брега челны!*

*Иртыш волнуется сильней...*
*Ермак все силы напрягает —*
*И мощною рукой своей*
*Валы седые рассекает.*

*Ревела буря... Вдруг луной*
*Иртыш кипящий осребрился,*
*И труп, извергнутый волной,*
*В броне медяной озарился.*

*Носились тучи, дождь шумел,*
*И молнии его сверкали,*
*И гром вдали ещё гремел,*
*И ветры в дебрях бушевали.*

## ГУМАР З БАРАДОЮ

У мокрадзь ехалі два паны. Коні памаленьку шлёпалі па гразі. Гутарка не клеілася. Ехалі і маўчалі. Раптам адзін вываліўся ды, лежачы ў гразі, звяртаецца да другога:

— Ну і надвор'е ж, каб яно прапала... А як ты думаеш?

Той маўчыць. На другі дзень толькі, як сам зваліўся, адказаў:

— Так, суседзе, дрэннае.

# Курёзы

**ХТО Я?**

Турэцкі сатырык Азіс Несін піша:

„У 1933 г. выйшаў закон, па якім кожны турак павінен быў прыняць прозвішча... Мне не дасталася прыгожае прозвішча, якім я мог бы задавацца, і я ўзяў сабе прозвішча Несін, якое азначае — „што ты?" Мне хацелася, каб кожны раз, калі назавуць маё прозвішча, я задумоўваўся над тым, хто я і што я".

**ЦІ МОЖНА З'ЕСЦІ САМАЛЁТ?**

Ці можна з'есці самалёт? На гэта, здаецца, непраўдападобнае пытанне маладых француз італьянскага паходжання Мішэль Лаціто адказвае сцвярджальна, паведамляе італьянскі друк.

Лаціто ўжо шырока вядомы ў свеце. Яго імя — за спецыфічную „кулінарную прыхільнасць" — унесена ў кнігу міжнародных кур'ёзных рэкордаў „Гінес": ён па кавалачках праглынуў два тэлевізары (адзін у Парыжы і адзін у Каракасе) і веласіпед у канадскім горадзе Квебеку.

Рэкордным жа, на думку Лаціто, стане 1979 год, калі ў яго меню ўвойдзе самалёт, які ён абяцае з'есці цалкам — ад паветранага вінта да ліхтара на хвасце — за два гады.

У гутарках з медыкамі Лаціто заяўляе, што ў яго ніколі не было хваробы страўніка, і ён не адчувае цяжкасцей са страваваннем. Адзінае, што, паводле яго слоў, ён не пераносіць, — гэта бананы.




**Той, у чыіх вачах ты вырас, павінен паклапаціцца аб новай вопратцы для цябе.**